

Які аўтамабіль вы выбіраеце?

2 стар.



Беларускія парабкі ў Расіі

3 стар.



Мы імкнёмся ў НАТА

5 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 29(120) 18--24 ліпеня 2002 года | Кошт 250 руб.



Фота В.Саланінкі

*Ірына Дарафеева нарадзілася ў Магілёве ў 1997 годзе. Стала спяваць у 12 год, стаўшы салісткай вакальна-інструментальнага ансамбля «Радуга». У 1989 годзе стала пераможцай I-га рэспубліканскага конкурса маладых выканаўцаў, у 1993 годзе дыпламанткай конкурса выканаўцаў Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар-93», у 1994 годзе -лаўрэатам конкурса маладых выканаўцаў фестывалю беларускай музыкі і паэзіі «Маладзечна-94». У гэтым жа годзе стала салісткай ансамбля «Верасы». З 1997 да мая 1999 працавала салісткай Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь. Прадстаўляла беларускую песню ў Бельгіі, Германіі, Люксембургу, Польшчы, Аўстрыі, Швейцарыі, Нідэрландах, Літве, Югаславіі, Балгарыі, Украіне. Запісала два сольных альбомы з песнямі беларускіх кампазітараў. Зараз заканчваецца запіс трэццяга беларускамоўнага і чацвёртага рускамоўнага альбомаў спявачкі. Зараз здымаецца дакументальны фільм аб творчасці І.Дарафеевай (інтэрв`ю са спявачкай чытайце на 4 стар.)*

Чытачам «Вольнага Глыбокага» жадаю шчасця, любові!
І. Дарафеева

## НАВІНЫ

Самая буйная ў свеце фармацэўтычная кампанія Pfizer Inc. купляе кампанію-канкурэнта Pharmacia Corp. за $60 млрд. Вынікам здзелкі стане стварэнне карпарацыі, якая будзе кантраляваць 10% сусветнага рынку лекавай прадукцыі.

Тлушч не такі шкодны, як думалі раней, - да такой высновы прыйшлі амерыканскія дыятолагі. Атлусценне выклікаюць вугляводы ў мучной ежы, а таксама цукар з напояў ды кандытарскія вырабаў. З пачатку 1980-х гг., калі амерыканцы сталі спажываць менш жывёльных тлушчаў, колькасць тлустых людзей павялічылася - гэта пацвердзіла даследванне 300 тысяч амерыканцаў. Рэч у тым, што тлустая ежа хоць і ўтрымлівае больш калорый, але пры яе спажыванні пачуццё насычэння прыходзіць хутчэй. Да таго ж, чалавечы арганізм толькі 10 тысяч гадоў спажывае мучныя вырабы, а прадукты жывёльнага паходжання, у тым ліку і тлустыя - сотні тысяч гадоў.

Расійскія вытворцы абараняюць свой рынак ад беларускіх тэлевізараў. Ва ўрад Расіі ў хуткім часе паступіць прапанова ўвесці мыта на беларускую прадукцыю, бо яна на 70% складаецца з імпартных дэталяў: беларускія ў тэлевізарах толькі асобныя дэталі ды зборка. На расійскім рынку беларускія тэлевізары займаюць большую долю за расійскія.

Навукоўцы знайшлі ў чалавека ген, які абараняе яго ад СНІДу. Сутнасць адкрыцця ў тым, што на думку медыкаў, усе людзі маюць механізм прыроднай абароны ад СНІДу. Ген CEM-15 вырабляе рэчыва, якое перашкаджае вірусам перайсці ад адной клеткі да другой. Аднак вірус імунадыфіцыту змог пераадолець гэты бар'ер і разбурае імунную сістэму чалавека. Задача навукоўцаў у тым, каб падтрымаць генетычную абарону чалавека. На сёння ў свеце жывуць 40 млн. людзей, хворых на СНІД.

ЛАТАРЭЯ ЛАТАРЭЯ ЛАТАРЭЯ ЛАТАРЭЯ

### Шаноўныя чытачы!

Вы падпісаліся на "Вольнае Глыбокае" на трэці квартал 2002 года. Не спяшайцеся далёка хаваць альбо выкідваць даставачную картку. Рэдакцыя нашай газеты вырашыла правесці латарэю. Для ўдзелу ў ёй трэба выслаць на адрас рэдакцыі альбо перадаць распаўсюджвальніку на кірмашы гэту даставачную картку. Пераможцаў латарэі чакаюць не вельмі каштоўныя, але цікавыя прызы. Зразумела, што розыгрыш пройдзе непрадузята, пры ўдзеле групы актыўных памочнікаў газеты. Адбудзецца ён 28 ліпеня. Вынік розыгрышу і імёны пераможцаў будуць надрукаваныя ў нашай газеце.

*Жадаем удачы!*

ЛАТАРЭЯ ЛАТАРЭЯ ЛАТАРЭЯ ЛАТАРЭЯ

Удакладненне

У мінулым нумары «Вольнага Глыбокага» ў артыкуле «Крама і спрэчкі вакол яе» была дапушчана недакладнасць. Усе падзеі, якія разгортваюцца вакол крамы звязаны з жыхарамі дома 135»А» па вуліцы Леніна, а не 137»А», як было ўказана. Просім прабачэння ў чытачоў. І тых асоб, імёны якіх былі названыя ў артыкуле.

Рэдакцыя «ВГ»

**Надвор`е***

Агляд складзены на падзелак 16/7/2002 0:00 GMT

| | 18/7 Чц | 19/7 Пт | 20/7 Сб | 21/7 Нд | 22/7 Пн | 23/7 Ат | 24/7 Ср | 25/7 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +28 | +30 | +23 | +19 | +22 | +22 | +21 | +17 |
| з 2 гадзін | +17 | +19 | +20 | +18 | +13 | +13 | +14 | +13 |
| Ціск, мм рт.сл. | 748 | 743 | 740 | 742 | 742 | 741 | 740 | 737 |
| Тэндэнцыя ціску | -1 | -4 | -3 | +2 | 0 | -1 | -1 | +3 |
| Накірунак ветру | Усх | Пд-У | Пдн | Зх | Пдн-З | Пд | Пд-З | Пн-Ус |
| Хуткасць ветру, м/с | 2 | 5 | 3 | 3 | 1 | 2 | 4 | 4 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

# Роскаш ці забава ?

**А што ў жыцці сучаснага чалавека ўяўляе аўтамабіль? Сапраўды ён роскаш ці забава, як аб гэтым так шмат гавораць гумарысты. Відаць, аўтамабіль стаў тым сродкам, без якога нельга абыйсціся. А вось якія аўтамабілі любяць жыхары нашага рэгіёна, чаму аддаюць перавагу – з такім пытаннем і звярнуліся да жыхароў і выпадковых людзей у Глыбокім нашы карэспандэнты. Апытанне атрымалася цікавым. Вось яго вынікі.**



**Зінкевіч Васіль Віктаравіч, вадзіцель "Масквіча":**

-- Іншамарка лепш, значна лепш. Яна больш трывалая, зручней ездзіць, не так стамляешся. Гэты аўтамабіль – трэці. У мяне быў "Мерсэдэс", бартавы УАЗ. "Мерсэдэс" прадаў, УАЗ шмат спажывае паліва, таму і сеў на "Масквіча".



**Вольфганг Бранц, грамадзянін Германіі:**

-- Я кірую аўтамабілем у Германіі. На маю думку, лепшая марка аўтамабіля – гэта "Мерсэдэс".



**Міхалевіч Ігар, вадзіцель "Жыгулёў".**

-- На нашых трасах айчынны аўтамабіль больш надзейны, не так разваливаецца. Хаця ў іншамаркі большы прабег да капрэмонта.



**Буйніцкі Яўген Фёдаравіч, вадзіцель "Жыгулёў" першай мадэлі:**

-- Я езджу на сваёй машыне, бо гэта добры аўтамабіль. Я за рулём сваёй "капейкі" з 1974 года. І мне гэты аўтамабіль падабаецца.



**Драздовіч Іван Валер'янавіч, вадзіцель "Опеля":**

-- Я выбраў іншамарку таму, што яна на дызельным паліве. Каб быў айчынны дызельны аўтамабіль, то я купіў бы яго. Такіх аналагаў у нас няма.І ўвогуле айчынныя аўтамабілі шмат прайграюць замежным. Мы проста прызвычаіліся да свайго, але...

---

# Першапачатковыя капіталы -

## яны зарабляліся і на беларуска-літоўскай мяжы *(працяг)*

*Працягваем друкаваць успаміны былога афіцэра міліцыі Рыгора Багозы аб тым, як і што везлі праз беларуска- літоўскую мяжу ў самым пачатку 90-х, калі Літва стала самастойнай дзяржавай, Беларусь, дарэчы, таксама ўслед за іншымі краінамі былога СССР.*





"25 кастрычніка 1990 года быў прыняты Закон Беларускай ССР " Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынка Беларускай ССР". У адпаведнасці з гэтым Законам Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў адпаведную Пастанову. Кіраваў тады нашым урадам В.Кебіч, напэўна, старэйшае пакаленне беларусаў памятае такога дзеяча, уласна кажучы, потым менавіта ён "здаў" кіраўніцтва цяперашняму прэзідэнту, прайграўшы яму на выбарах "учыстую".

Але тады меры, прымаемыя ўрадам былі ў многім апраўданыя. Пайшоў масавы вываз тавараў з Беларусі і не на карысць Беларусі. У нас тавары былі значна танней, прычым, нашы, досыць высокага ўзроўню тавары шырокага попыту, у тым ліку і бытавая тэхніка, якая на той час крыху адпавядала еўрапейскаму ўзроўню.

На гэты час у раёне было створана тры пасты, падабраўся штат. Сёння трэба прызнаць, што было нямала і выпадковых людзей. Міліцыя тады выконвала функцыі і памежнай службы, і мытні. Не хапала кваліфікацыі. Але было і іншае. Было... Малады чалавек, толькі адслужыўшы ў войску прыходзіць на пост, атрымлівае пэўную ўладу над тымі, хто перасякае мяжу. А яму тут прапануюць грошы, невялікія ў рэшце рэшт, але грошы ў параўнанні з той заработнай платай, якая ідзе ў адпаведнасці пасады. І чалавек у роздуме: што лепш – быць чэсным і бедным альбо быць крыху нячэсным і пры нейкіх грашах.

Мы адследжвалі гэту сітуацыю. Быў час, калі нам дапамагалі ў справе "абароны беларускага рынка" нават падраздзяленне "зялёных бярэткаў", "АМАП". Трэба прызнаць, што гэта былі людзі поўнасцю адданыя справе, асабліва "зялёныя бярэткі". Яны маглі начаваць у самых сціплых умовах, харчавацца сухім пайком, але яны выконвалі сваю справу. А з многімі супрацоўнікамі пастоў давялося ў той час расстацца.

У раёне існавала шмат аб'язных дарог, якія выкарыстоўвалі сучасныя кантрабандысты. Трэба сказаць, што і ўжо ў той час існавала зона прыгранічнага кантролю. Мы мелі права кантраляваць прыгранічныя дарогі, якія ішлі ў аб'езд пастоў. Больш таго, бралі падпіску са старшынь прыгранічных калгасаў аб тым, што гэтыя дарогі будуць перакапаныя.

І ўсё-такі мы затрымлівалі шмат тавараў, якія былі забароненыя да вывазу з тэрыторыі Беларусі. Але ў судах існавала практыка: калі грамадзянін альбо юрыдычная асоба, якія вывозілі з Беларусі пэўны тавар, маглі прадаставіць дакументы аб тым, што тавар гэты вывозіцца праз Беларусь з Расіі – яны не падлягалі адказнасці. Нямала было выпадкаў, калі мы затрымлівалі калону аўтамашын, вяртаем іх у райаддзел міліцыі, а праз нейкі час прадастаўляюцца дакументы, што гэты тавар следуе з Расіі. Аднойчы быў анекдатычны выпадак. Затрымалі мы машыны з бытавой тэхнікай. Затрымалі. Яны прадастаўляюць дакументы, што гэта тэхніка закупленая ў Смаленску. Але ж тэхніка наша – беларуская. Я паслаў запыт праз вышэйстаячыя органы. З Расіяй тады супрацоўнічаць было няпроста – розныя краіны ўжо. Але ўсё-такі запыт дайшоў, і высветлілася – такой фірмы ў Расіі ўвогуле не існуе.

Паступова вываз з Беларусі ўсяго, што можна было вывезці, станавіўся татальным. Кіраўнікі мясцовых органаў улады, якія спачатку толькі "дапамагалі" перасячэнню мяжы, незаконнаму, аўтакалон з глыбіні рэспублікі, зразумелі і ўбачылі, што яны таксама могуць заняцца гэтым бізнесам. І вось тут у супрацоўнікаў пагранічных пастоў міліцыі пачаліся сапраўдныя непрыемнасці. Помню, затрымалі пяць аўтамашын, якія перавозілі з Глыбокага 20 пародзістых коняў. А такі конь каштаваў тады больш тысячы долараў. Расійская дакументы на гэтых коняў выклікалі вельмі вялікія сумненні. Справа пайшла ў суд. Але там справа вырашылася не на нашу карысць. Коні паехалі ў Літву.

Яшчэ адзін выпадак. Ідзе пятнаццаць бензавозаў, беларуская. Дакументаў ніякіх. Але калі гэтыя машыны былі завернутыя ў райаддзел, дакументы з Расіі знайшліся. І мы нічога не маглі зрабіць. Наступны раз гэта ж аўтакалона ішла з палівам, але ўжо з расійскімі дакументамі, якія зноў жа выклікалі вялікія падазрэнні. Намі з дапамогай мясцовага аддзялення КДБ было ўстаноўлена, што калоны з палівам ідуць праз адзін з пастоў з зайздроснай рэгулярнасцю – калі там дзяжурыла адна і тая ж змена на чале з лейтэнантам "невялікага ўзросту". Вылічылі мы гэтага лейтэнанта, спрабавалі аператыўнымі метадамі ўлічыць яго ў злоўжываннях службовым становішчам. Але зноў жа нічога не атрымалася. Моцнай была абарона.Дарэчы, у барацьбе са мной гэты «лейтэнанцік» уcплыў. Маё ж начальства ў раёне паспрабавала зрабіць «карупцыянерам» менавіта мяне. Нібыта я дамаўляўся з літоўскімі вадзіцелямі аб тым, што прапушчу іх калону з палівам праз мяжу. На допытах ад гэтых вадзіцеляў і дамагаліся аднаго: «Прызнайце, што гэты афіцэр абяцаў вам беспеішкодны праезд праз мяжу.» Абяцалі ім многае. Але да гонару літоўскіх вадзіцеляў -- ніхто з іх мяне ў тым «лейтэнанце» не прызнаў. Яны гаварылі так: «Што ж гэта, на старонняга чалавека паказваць не будзем. Ён і па росту зусім не падыходзіць, і па твары. Гэта не той чалавек.»

Была яшчэ адна спроба абвінаваціць у перавышэнні ўлады аднаго з самых прынцыповых і сумленных афіцэраў на адным з пастоў. Яму паставілі ў віну тое нібыта, што ён пад аўтаматам выстраіў вадзіцеляў аўтакалоны, якая незаконна перасякала мяжу, пагражаў, праяўляў свавольства. Раённае міліцэйскае начальства адразу ўхапілася за такую заяву. І сумленны, малады, перспектыўны работнік апынуўся ў становішчы, калі яму пагражала самае меншае - - звальненне з міліцэйскай службы. Добра, што знайшліся ў нашых шэрагах сумленныя людзі, на разбіральстве сталі цвёрда на абарону маладога афіцэра. Але і гэта не дапамагло. Давялося мне званіць у абласное ўпраўленне, тым людзям, якія займаліся аховай нашай мяжы. Афіцэра мы адстаялі, ён і сёння паспяхова нясе службу ў органах. А вось я атрымаў ад начальства чарговае папярэджанне: «Ты дзе служыш -- у Віцебску, ці ў раёне. І каму ты ўвогуле падпарадкоўваешся?» Адказваў я адназначна: служу Беларусі і яе інтарэсам.

Паступова стала ясна, што незаконным перамяшчэннем тавараў праз літоўска-беларускую мяжу сталі займацца мясцовая ўлада, якая стварыла цэлую сістэму гэтага незаконнага занятку, і нейкая крымінальная структура. Якія ў іх былі паміж сабою кантакты – высветліць не ўдалося. Але кантакты такія, магчымыя. Таму што далейшыя падзеі паказалі, што любыя нашы дзеянні па прыпыненню незаконнага перамяшчэння тавараў у Літву, выклікаюць не толькі гнеў мясцовага начальства, але і пэўныя "захады" крымінальных структур, якія "квітнелі" на глебе блізкай мяжы. Але аб гэтым далей.

*(Заканчэнне будзе)*

# Як нас "кідаюць" у Расіі

**Як толькі надыходзяць цёплыя веснавыя дні адбываецца чарговая міграцыя беларусаў у Маскву і Падмаскоўе. Едуць браты-беларусы паасобку, едуць брыгадамі. На заробкі, на заробкі... І ў асноўным будаўнікамі. Масква сёння – адзін з багацейшых гарадоў ужо не толькі Еўропы, але і свету.**

Вялікія грошы "круцяцца" тут. Шырока замахваюцца "новыя рускія" на аддзелку сваіх кватэр, на будаўніцтва дач-палацаў. Самі масквічы ў будаўнікі не тое, што не ідуць, але ідуць неахвотна і толькі туды, дзе можна не працаваць, а хоць крыху пакіраваць. А вось беларусы, украінцы, малдаване складаюць у цёплую пару года самую асноўную рабочую сілу. Нашым бедакам толькі б работа, толькі б нейкі больш-менш прыстойны заробак, які дазволіць сям'і на некалькі месяцаў потым не думаць пра тое, з чым ісці ў краму. З рознымі людзьмі даводзілася размаўляць. Але сёння размова пойдзе крыху аб іншым. Вельмі часта, да горкага вельмі часта братоў-беларусоў проста "кідаюць" у сталіцы некалі вялікага і непарушнага Саюза ССР. З гэтых размоў, успамінаў і з'явіліся нататкі аб тым, чаго ж трэба асцерагацца, на што звярнуць найперш увагу тым, хто наважыўся і адважыўся папоўніць рады наймітаў-парабкаў на абсягах Расійскай імперыі:

**Андрэй, які страціў у Маскве два пальцы:**

"Мяне завербавалі ў Паставах. Так-так, завербавалі. Быў у нас такі чалавечак, які падыходзіў і прапаноўваў працу ў Маскве на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве. Абяцаў, зразумела, залатыя горы і не зусім цяжкую працу. Набраў цэлую брыгаду. Як потым нам стала вядома, ён за кожную завербаваную "галаву" атрымліваў пэўную суму, таму яму няважна было, што сабою ўяўляе патэнцыяльны работнік прадпрыемства, а таксама тое, што з тым работнікам будзе далей. Яму абы "галоў" пабольш. Таксама беларус.

Ну вось мы і ў Маскве. Пасялілі ў недабудаваным доме, дзе ўжо былі нейкія там выгады накшталт душа ды газавай пліты, на якой можна было гатаваць ежу. За ежу, дакладней за прадукты, якія нам гаспадары і завозілі, з нас аўтаматычна вылічвалі грошы. Ну а гатавалі мы самі.

Працавалі на дрэваапрацоўцы. Выраблялі дзверы, іншае. Станкі зношаныя, бяспекі працы ніякай. Шчапа ляціць – толькі хавайся. Ды і са станкоў часам нешта вылятала. Бачыце па маіх пальцах. І ніякіх кампенсацый. У цэху пыл такі, што ў канцы змены на целе ўтваралася аж скарынка ад яго і поту. Добра, што было дзе абмыцца. За кожнае парушэнне дысцыпліны альбо проста слова, сказанае супраць – штраф. Усё вылічваецца з прыстойнай нібыта на пачатку зарплаты. У горад не выходзь – небяспечна. Ды пасля дванаццацігадзіннай працы і ісці нікуды не хочацца. Хутчэй да ложка і адпачываць. Асвойваўшыся, прывыкнуўшы, мы пакрысе сталі разумець, што да чаго. Аказваецца, з сапраўдным гаспадаром прадпрыемства-масквічом мы і спраў не мелі. Ён займаўся сваім бізнесам: збыт прадукцыі, сыравіна і г.д. А з намі мелі кантакт толькі пасрэднікі, два ўвішныя мужчынкі, якія абкрадалі нас на чым толькі можна. З'ехаць. Але перарываецца кантракт, дадуць табе на дарогу і яшчэ сёе-тое – і шуруй на родную Беларусь. Нам ты непатрэбен, нам хутка новую партыю "галоў" падкінуць. Я з'ехаў раней, бо так атрымалася з рукой. А вось большасць хлопцаў датрывала да канца. Ехалі яны назад з мэтай падлавіць таго вербаўшчыка і як след "аддзячыць" яго. Але ён ужо знік. Казалі, што праводзіць падобныя вярбоўкі ўжо ў Глыбокім. Потым пераберыцца яшчэ куды-небудзь. Галодных і згодных на любую працу мужыкоў у нас хапае. Кажуць, ёсць цяпер сапраўдныя фірмы, якія займаюцца наймам рабочай сілы на Беларусі, юрыдычна афармленыя, з канкрэтнымі дамовамі. Ды, здаецца мне, што і там не без падману. А куды мы дзенемся?"



Фота IREX /ProMedia

**Віктар, спецыяліст па камінах:**

«У мяне ў Падмаскоўі, ну, не ва ўсім, але ў пэўным раёне забудоў сярод "новых рускіх" ужо сталая рэпутацыя. Шмат год працую. Ды і з сабою заўсёды важу цэлы стос фотаздымкаў, дзе я зняты на фоне таго, што зрабіў. Таксама добрая рэкамендацыя. Кажуць, на Захадзе існуе форма рэкамендацыйных пісьмаў ад папярэдняга гаспадара. Няма іх, на цабе і глядзець не будуць. Ну а ў мяне фотаздымкі: вось што ўмею і магу. І вось аднойчы трапіў я ў незнаёмы пасёлак да новага гаспадара. Таму таксама патрэбен быў камін ды і яшчэ шмат іншай работы – цокаль асабняка зрабіць прыгожым, басейн. Работы на ўсё лета. Дамовіліся аб цане. Вельмі і вельмі добры заробак, не на адзін год жыцця ў Беларусі хопіць. І ўлёг я ў справу. Працаваў так. Падымаюся ў шэсць гадзін. Сняданак – і наперад. Кароткі перапынак на абед, і зноў за кельму. Да дзесяці гадзін вечара мінімум. Я да такога распарадку прывык. Зімою адпачываю. А тут жа і стымул наперадзе. Вялікія грошы. Харчаванне было за кошт гаспадара, такая дамова, мы там нейкую суму адлічыць дамовіліся. Няма чаго хадзіць па крамах, дарэмна марнаваць свой час. Са мною працавала два масквічы. Яны дык не ўпіраліся ані. Восем гадзін адпрацавалі па сваёй частцы – і канец, дадому. На-акладзе, аказваецца, былі. Нейкі час яны прыглядаліся да мяне, нават нейк варожа. А потым і гаворыць адзін:

— Чаго ты так упіраешся, як на катарзе.

Я адказваю:

— Вы ж дома, вам круглы год праца. А мне за лета трэба зарабіць грошы, вось і працую.

— А чаму авансы ў гаспадара не бярэш. Сума вялікая, можаш жа кожны месяц нешта і ўзяць з яе, дадому пасылаць.

— Не, мне патрэбна адразу ўся сума. Ды і запіць магу, калі грошы ў кішэні з'явяцца вялікія.

— Ну-ну, паглядзім што будзе.

Каб ведаў я, што мае на ўвазе той рабочы-масквіч. Але я прывык да пэўнай чэснасці гаспадароў, да іх прыстойнасці. Мы з тым гаспадаром, бывала, і ў більярд згуляем. Я выйграваў заўсёды. (Жыў я на той жа дачы, і ў свята ці нядзелю было часу пазабавіцца). І вось праца закончана, апошнія дні я асабліва стараўся, хацеў паспець на радзіму да кастрычніцкіх свят. Здаў зробленае. Гаспадар сказаў, каб за разлікам прыехаў да яго ў офіс. А гэта далекавата ад дачы, у суседнім горадзе. "Прышлю машыну".

Прыйшла машына. Заходжу ў офіс. А ў кабінеце гаспадара акрамя яго два амбалы, зразумела хто, ахоўнікі. Гаспадар і гаворыць:

—Вось табе грошы, унізе чакае машына, падвязе цябе да электрычкі і давай адсюль.

Працягвае мне пачак рускіх рублёў.

Я гляну ў:

— А дзе долары, як дамаўляліся. Тут жа і трэцяй часткі не будзе ад дамовы.

— Бяры тое, што даюць. Інакш…

Выйшаў з офіса ў трансе, прысеў на прыступкі. Потым намацаў у сумцы стамеску. Але што ты зробіш з тымі амбаламі?

Кінуўся да папярэдняга гаспадара, прыстойнага чалавека. Той паабяцаў хоць у нечым дапамагчы. Ды толькі па гэты час дапамагае.

Цяпер бяру авансы."

**Сяргей, проста муляр:**

"Працавалі мы ўдвух з сябрам таксама з Беларусі на муроўцы нейкага хітрага будынка ў пасёлку пад Масквой. Дамова з гаспадаром цвёрдая, заробак абяцаны неблагі. Ды і праца звычная, стараліся выканаць яе як найлепей, паказаць сваю марку. Жылі побач з будынкам, у вагончыку, з якога стараліся асабліва не высоўвацца. Папярэдзілі дасведчаныя людзі, што надта муліць вочы сваёй прысутнасцю тут не трэба. У вагончыку халадзільнік. Закупім пацыху прадуктаў на тыдзень. І з рыштаванняў у вагончык, з вагончыка – на рыштаванні. Бетонамешалка на месцы, матэрыялаў хапае. Справа рухалася добра.

Але неяк пад'язджае да нашага аб'екта міліцэйскі "УАЗік". Выходзяць паліцыянты.

—Хто такія?

—Ды вось працуем…

—Вашы пашпарты.

А якія ў нас пашпарты, якая прапіска – беларуская.

Забралі ў аддзел. Там доўга цягалі з кабінета ў кабінет. Незаконнае пражыванне – што тут скажаш. У рэшце рэшт далі нам зразумець, што трэба заплаціць штраф.

Праз тыдзень зноў міліцыя ля нашага аб'екта. І зноў:

—Хто такія?..

Зноў апынуліся ў аддзеле, зноў пісалі нейкія апраўдальныя паперы. Але закончылася ўсё тым жа штрафам. Спачатку мы думалі, што падстаўляе нас нехта з суседзяў. Вельмі ўжо насцярожана ставіліся да нас яны. У іх там п'янка ад ранку да вечара. У гародах не тое, што бульбіна, ніякай гароднiны няма. Адно ведаюць – п'юць. А тут мы на іх вачах ад рання да вечара стараемся на рыштаваннях, ля бетонамяшалкі. І грошы ж, відаць, заграбаем вялікія. Так адзін з іх напаўп'яны і сказаў аднойчы: "Што, бульбашы, капейку нашу адбіраеце." "Дык працуй сам, чаму ты не падрадзіўся?" Той толькі мацюгнуўся.

Але калі нас забралі трэці раз і трэці раз аштрафавалі – зразумелі мы, што трэба звяртацца да гаспадара.

—Добра, разбяруся, вас больш чапаць не будуць.

І сапраўды, пасля гэтага міліцыя мясцовая нас нібыта і не заўважала. Калі нават у краму за прадуктамі прыходзілі.

Вось толькі пры канчатковым разліку гаспадар вылічыў з нас немалую, ох, немалую суму. "За што?" " А вы думаеце, я міліцыі менш кінуў, каб яны вас не заўважалі?»

**Уладзімір, няўдачнік па жыцці:**

"Так, я няўдачнік па жыцці. Больш дзесяці гадоў працую ўжо ў Расіі. І за гэты час было нямала прыгод, якія заканчваліся для мяне ў асноўным няўдачай. Але пра адзін выпадак, які стаў поўным крахам, трэба расказаць асобна.

Той год я затрымаўся ў Падмаскоўі зашмат, аж да зімы. Стараўся закончыць свой аб'ект. Атрымаў разлік – усё, як належыць. Купіў скураныя, выдатныя курткі сабе і сыну, падарунак жонцы. Грошы, долары зашыў у кішэні кашулі, пакінуў толькі на дарогу. Ну і хутчэй на электрычку. Прыехаў на Беларускі вакзал. А тут праз некалькі хвілін адыходзіць цягнік на Полацк. Чаму б і не – што мне па сталіцы басціцца, тут можна на розныя непрыемнасці нарвацца. Купіў білет, ускочыў у цягнік, праз колькі хвілін ён і адышоў. Асвойваўся. Я ў купэ адзін. Ад'ехалі ад Масквы. А піць хочацца!.. Сасмяг у дарозе.

Пытаюся ў правадніц, каб чаго папіць. Чаю няма, ёсць кава. Кавы я ўвогуле то не п'ю, ды і смагу ёй не натоліш. А што ёсць яшчэ? Шампанскае. Падумаў я падумаў. Увогуле то да спіртнога стаўлюся вельмі прыхільна. Толькі не на заробках. Пару разоў былі з-за гэтага непрыемнасці з гаспадарамі. Ды і несумяшчальна гэта – заробкі ў чужой краіне і выпіўка. Але ж дадому еду, ужо дадому. І што там мне будзе ад таго шампанскага. А піць жа хочацца. Купіў бутэльку.

Адасобіўся ў сваім купэ, выпіў шклянку, другую … І болей нічога не помню.

Ачуняў у нейкім ванючым, халодным памяшканні на падлозе. Рука баліць, правы бок твару – памацаў – разбіты. Сумкі нідзе няма. Памацаў кашулю. Долараў няма!

Праз колькі часу адчыніліся дзверы. Міліцыянер. Завёў ён мяне ў дзяжурку. Аказваецца, я на нейкай станцыі паміж Масквою і Смаленскам. Знялі мяне з цягніка за п'яны дэбош, бойку. Аказваў супраціўленне міліцыі.

—А грошы?

—Грошы? Вось яны.

І кладуць перада мною нейкі жмутачак расійскіх рублёў. Паглядзеў я – на іх і да Смаленска не даедзеш. Я пачынаю гаварыць пра долары ў кішэні. А з мяне толькі смяюцца. "Скажы дзякуй, што гэта вяртаем, штраф табе трэба плаціць, ды бачым, што няма чым."

Так і апынуўся на пероне, сіверы і марозе ні з чым. Куды ты паскардзішся.

Што рабіць? Ехаць дадому няма сэнсу ды і няма за што. А там жа сям'я здабытчыка чакае. Больш чым паўгода зарабляў. З той роспачы пайшоў у краму, узяў бутэльку. Выпіў і ўжо свядома ўкуліўся ў электрычку, якая ішла ў бок Масквы. Знялі мяне з яе на нейкай станцыі як безбілетніка. Зноў у пастарунку апынуўся. Але тут мяне доўга не трымалі, што з мяне ўзяць?

Зноў туляўся па вакзале, зноў ехаў "зайцам". Якіх толькі прыгод ні зведаў. І хачу зазначыць адно: простыя рускія людзі чулыя і спагадлівыя. Калі ты ў бядзе, абавязкова нехта знойдзецца і дапаможа. Адным словам, на нейкі тыдзень забамжаваў я, па сапраўднаму забамжаваў. А ў рэшце рэшт апынуўся ў свайго гаспадара, з якім нядаўна разлічыўся поўнасцю. Той і паведаміў, што мяне ўжо даўна шукае жонка, хвалюецца. Зразумеў гаспадар мой стан. Даў пэўную суму ў аванс пад будучую работу.

Неяк на наступны год я прачытаў у расійскіх газетах, што на гэтай чыгуначнай лініі выкрыта цэлая банда.»

**Алесь Касцень**

# Ірына Дарафеева:

## Глыбокае ў мяне на слыху

**11 ліпеня ў Глыбокае прыехала адна з найвядомейшых спявачак Беларусі Ірына Дарафеева ў рамках канцэртнага тура, які пачаўся напрыканцы мінулага года. Зорка дала эксклюзіўнае інтэрв'ю "Вольнаму Глыбокаму".**

*-- Ірына, дзе яшчэ ў нашым рэгіёне вы выступалі ў рамках апошняга тура?*

-- Мы далі канцэрты ў Паставах, Докшыцах, Дунілавічах. Таксама выступалі на Нарачы, але гэта, пэўна, не ваш рэгіён. Таксама з вашай вобласці мы далі вялікае шоу у Навалукомлі.

*-- Які выступ найбольш запомніўся?*

-- Вы ведаеце, напэўна Навалукомль. Гэты канцэрт быў прысвечаны майму 25-годдзю,а таксама так прыпала, што гэта быў 350-ы канцэрт. Ён якраз прыпаў на Купальскую ноч. Разам са мной у шоу прымалі ўдзел тэатр "Эос", Ірына Афанасьева, Уладзімір Ухцінскі, Сяргей Кравец, Кірыл Слука, "Ды Бронкс і Наталі" і многія іншыя. Мы паказалі сапраўднае шоў: была піратэхніка, асвятленне, нават пажарныя машыны – усё на вышэйшым узроўні. А дыскатэка доўжылася да пяці гадзін раніцы, пакуль міліцыя не пачала разганяць публіку. Дарэчы, пасля выступу людзі падыходзілі і казалі: "За што такое шчасце нашаму гораду"?

*-- А ці былі вы раней у Глыбокім?*

-- У Глыбокім я раней не была, проста з гэтай назвай у мяне ёсць нейкія асацыяцыі (нават не магу сказаць адкуль) Нейкія ў мяне дзіўныя ўспаміны. Мабыць, гэта, калі я працавала з "Верасамі", мы прыязджалі сюды, але канцэрту так і не было, на жаль.

*-- Распавядзіце, калі ласка, пра Вашы нядаўнія гастролі на Кіпры.*

-- Мы далі пяць канцэртаў. Прайшло ўсё супер. Зараз кіпрыёты запрашаюць мяне зноў у рамках Днёў Беларусі на Кіпры.

*-- Вы спяваеце на розных мовах – беларускай, рускай, польскай... Песні на якой мове лепш за ўсё ўспрымаюцца?*

-- Пэўна, на беларускай. Асабліва гэта заўважна за мяжой. У Еўропе, напрыклад, успрымаецца спявак, калі ягонае сола ідзе на нацыянальнай мове, калі ты якасна спяваеш на англійскай, гэта яшчэ можа пайсці (напрыклад Scorpions), калі спяваеш на расейскай на цябе глядзяць, як на дзівака. Рускамоўную музыку там успрымаюць слаба, таму ёсць складанасці ў многіх рускіх выканаўцаў там.

*-- Распавядзіце пра ваш новы альбом, які вы зараз рыхтуеце.*

-- Фактычна ў нас ужо гатова дзве праграмы. Адна цалкам беларускамоўная, другая – рускамоўная. Мы спачатку робім "абкатку" новага матэрыялу, а потым выпускаем альбом. Такім чынам, новыя песні папулярызуюцца праз бягучае турнэ. Беларуская праграма пэўна выйдзе ўжо хутка.



*-- Пагаворым пра шоу-бізнес. Што ён такое і ці ёсць ён увогуле ў нашай краіне.*

-- Вы пра шоу-бізнес?!!

Шоу-бізнес – гэта калі ёсць сістэма запісу, раскруткі, продажу музычнай прадукцыі. У Беларусі яго фактычна няма. Музычныя мінскія FM-станцыі мала зацікаўлены ў раскрутцы нацыянальных артыстаў. У асноўных радыёстанцыях ідзе фармат расійскай папсы ( яны гэта называюць фарматам ). Хіба што "Сталіца" найбольш "прасунутае" ў гэтым плане, але і яны не робяць шмат для папулярызацыі менавіта роднай эстрады (на мой погляд «Сталіца», увогуле не вызначылася з фарматам). У Мінску ( як я даведалася і ў вас) дзейнічае тэлеканал СТВ. Не так даўна яны прапанавалі мне: "Давайце 200 баксаў" і мы зробім вам раскрутку. Плюс яны запатрабавалі, каб я сама зрабіла відыёкліп і прынясла ім касеты. Мой мэнеджэр сказаў: "Дзякуй, хлопцы, канечне! Але так справы не робяцца. Павучыцеся ў ТВ-6, як працуюць музычныя праграмы!" Няўжо музыкант мусіць плаціць за тое, што яго песні будуць круціць у эфіры? Гэта абсурд!

*-- Такім чынам, каб рас-круціць сваю праграму, адзін спадзеў на канцэртную дзейнасць? Колькі ў вас канцэртаў яшчэ запланавана?*

-- Ой, канцэртаў запланавана вельмі шмат! Фактычна па аднаму ці нават па два на дзень. (Тут нам мэнеджэр Ірыны паказаў графік канцэртаў толькі па адной з абласцей – спіс на 2-3 лісты).

*-- І нарэшце, што Вы пажадаеце нашым чытачам і жыхарам рэгіёна?*

-- Самага галоўнага – шчасця і любові!!! Усё ў вас будзе добра!

*А.Храпавіцкі, В.Саланінка*

*(фота В.Саланінкі)*

# Дзе хаваецца зарплата

Аляксандр Лукашэнка прад'явіў ураду жорсткае патрабаванне: ліквідаваць запазычанасць па выплаце заработнай платы. Як выконваецца распаражэнне главы дзяржавы?

Па дадзеных на 4 ліпеня на Віцебшчыне не разлічыліся са сваімі работнікамі за красавік 320, а за травень – 478 суб'ектаў гаспадарання. Агульная запазычанасць – 8 млрд. 462 млн. рублёў.

У вельмі цяжкім становішчы апынуліся жыхары пасёлка Гута Пастаўскага раёна, большасць з якіх працуе на мясцовым шклозаводзе. Прадпрыемства, дзе працуе каля 300 чалавек, спынілася 26 траўня – выйшла са строю шкловарная печ. Людзям можна толькі паспачуваць.На аднаўленне вытворчасці патрабуецца каля 500 тысяч долараў. А дзе іх узяць, калі нават старыя запазычанасці па зарплаце тут вяртаюць з вялікай цяжкасцю?

Несалодка даводзіцца і рабочым наваполацкага завода "Вымяральнік". Прадпрыемства практычна вычарпала свае магчымасці на ўнутраным рынку – поўнасцю наталіла яго цеплалічыльнікамі, таксометрамі, касавымі апаратамі, а МТЗ не толькі рэзка знізіў заказы на выраб рэле паваротаў, але і не разлічваецца за ўсю пастаўляемую прадукцыю. Толькі цяпер кіраўніцтва "Вымяральніка" прапрацоўвае пытанні аб'яднання з расійскай карпарацыяй ААА "Аэракасмічнае абсталяванне". Але цікава, аб чым яно думала раней? Ці падлічвалі на "Вымяральніку", колькі засталося ў Беларусі крам без касавых апаратаў і "таксі" без таксометраў?

Лічбы статыстыкі гавораць аб тым, што прадпрыемствы Віцебшчыны маюць на складах месячны запас прадукцыі, а палова з іх працуе сабе на страту. Вось дзе "хаваецца" зарплата.

Між тым у прамысловасці справы ідуць больш ці менш прыстойна. Каля 90 працэнтаў запазычанасці па зарплаце даводзіцца на сельскую гаспадарку. Цяпер нават высокія надоі на калгасных фермах не гарантуюць паступлення грошай на разліковыя рахункі сельгаспрадпрыемстваў. У вельмі цяжкім стане апынуўся "Мясамалпрам", якому ў сваю чаргу павінен гандаль. Вось і жывуць людзі за кошт асабістых падвор'яў і бацькоў-пенсіянераў.

Штодзённа на стол старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Андрэйчанка кладуцца апошнія зводкі аб ходзе ліквідацыі запазычанасцяў па зарплаце. Інспекцыя Камітэта па працы штрафуе кіраўнікоў, вінаватых у затрымцы зарплат, — рашэннямі мясцовых выканкамаў іх пазбаўляюць прэміяльных і іншых надбавак. Але калі 2—3 гады назад фіксаваліся выпадкі, калі кіраўнікі не плацілі людзям грошы, а самі ў гэты час набывалі дарагія аўтамабілі, то цяпер такога няма. Уласна кажучы, дырэктарам, старшыням і кіраўнікам не пазайздросціш. Нявыплата зарплат – следства цяжкага становішча на кіруемых імі прадпрыемствах. «Адміністрацыйны рэсурс у тым выглядзе, як сёння ён выкарыстоўваецца, ужо вычарпаў сябе і не дае станоўчых вынікаў", — прызнае начальнік па працы і заработнай працы аблвыканкама Валерый Купчанка. Цяпер ён заняты падрыхтоўкай дакумента аб стварэнні абласной камісіі па выплаце заработнай платы. Распараджэнне будзе прадугледжваць персанальную адказнасць кіраўнікоў за нявыплату грошай сваім работнікам. Аж да адхілення ад пасад дырэктараў прадпрыемстваў, кіраўнікоў камітэтаў і выканкамаў.

# Як адпачываюць нашы дзеці?

У чэрвені нагляд у Беларусі здзяйсняўся за 3700 аздараўленчымі ўстановамі, у якіх "адпачывала" больш 400 тысяч дзяцей. У 85 лагер было ўстаноўлена незахаванне рэжымаў мыцця сталовага і кухоннага посудаў, нездавальняючае ўтрыманне харчблокаў, няспраўнасць халадзільнага альбо тэхналагічнага абсталявання, паведамляе газета " Медыцынскі веснік".



У першыя 10 дзён змены ў шэрагу аздараўленчых устаноў дзеці не атрымалі ў дастатковай колькасці гародніну і кісламалочныя прадукты ( тварог, кефір), раслінны алей. Асноўнай прычынай невыканання норм харчавання з'яўляецца несвоечасовы завоз прадуктаў у Шумілінскім, Гомельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Ляхавічскім раёнах.

Парушэнне тэхналогіі прыгатавання ежы выяўлена ў 75 аздараўленчых лагерах рэспублікі. У чэрвені ў лагеры "Электрон" Мінскага ВА вылічальнай тэхнікі захварэла іерсініёзнай інфекцыяй 38 дзяцей і дарослых. Прычынай успышкі з'явілася незахаванне тэхналогіі апрацоўкі гародніны і садавіны.

# Хто каго пужае?

Аляксандр Лукашэнка, выступаючы нядаўна на пасяджэнні савета бяспекі, зрабіў сенсацыйныя заявы, якія тычацца змянення пазіцыі Мінска па адносінах да НАТА. " Усё павінна быць чэсна і прыстойна, у тым ліку і па адносінах да НАТА", — заявіў прэзідэнт. Па яго словах "рэаліі сёння такія, што насуперак раней дасягнутым дагаворам аб нераспаўсюджванні блока НАТА працягвае расшырацца". «Беларусь не можа не ўлічваць новыя рэаліі", — адзначыў Лукашэнка. Беларускі лідэр заклікаў "скарэкціраваць пазіцыю і прыстасавацца да гэтых рэалій". Мінск, праўда, не хоча "губляць твар". "Вось змянілася сітуацыя, Расія і Украіна нібыта пабеглі ў НАТА, і як быццам мы павінны бегчы ўслед. Тут нельга дапусціць кан'юктуры, бо мы згубім твар".

Афіцыйныя крыніцы адмовіліся на дадзены момант каменціраваць заяву Лукашэнкі. У прыватнасці прэс-сакратар МЗС Павел Латушка сказаў, што павінен прайсці нейкі час, перш чым знешнепалітычнае ведамства растлумачыць пазіцыю беларускага боку па гэтаму пытанню. У міністэрстве абароны прапанавалі звярнуцца ў савет бяспекі. Уласна кажучы, у прэс-службе савета бяспекі таксама не каменціруюць дадзенае пытанне, аднак падзяліліся даведачнай інфармацыяй. У прыватнасці, ва індывідуальнай праграме партнёрства паміж Беларуссю і НАТА на 2002-2003 гады, якая ўступіла ў сілу ў лютым бягучага года, з'явілася пяць дадатковых пунктаў у параўнанні з праграмай 2000-2001 гадоў. У прыватнасці планаванне, арганізацыя і кіраванне нацыянальнымі праграмамі ў галіне абаронных даследванняў і тэхналогій, "Ваенная геаграфія", "Гуманітарнае размініраванне", "Меры палітычнага і ваеннага



характару, накіраваныя супраць распаўсюджвання ядзернага, бактэрыялагічнага і хімічнага ўзбраення", "Стралковая зброя і лёгкія ўзбраенні". Адпаведна афіцыйнай інфармацыі ў праграме на 2002-2003 гады ўпершыню закладзена магчымасць правядзення мерапрыемстваў на беларускай тэрыторыі, у прыватнасці па лініі мінабароны, МНС і нацыянальнай акадэміі навук. Цяпер прапрацоўваюцца магчымасці правядзення сумесных вучэнняў па адпрацоўцы спосабаў ліквідацыі наступстваў радыёактыўнага забруджвання.

Прадстаўнікі грамадскасці больш гавораць аб палітычным аспекце выказванняў А. Лукашэнкі. І большасць з іх сыходзяцца ў тым, што гэта своеасаблівы адказ на нядаўнія жорсткія заявы Пуціна з нагоды будучай саюзнай дзяржавы. "мы гэта ўжо праходзілі ў 1997 годзе, калі Расія была на парозе падпісання аснаватворчага акта з НАТА, — гаворыць былы намміністра замежных спраў Андрэй Савінкаў. – З Беларусі раздалося: мы таксама хочам. Цяпер можна гаварыць аб новых прарывах ва ўзаемаадносінах з НАТА Расіі і Украіны. І зноў жа раздаюцца тыя ж заявы з Беларусі. Канечне ж, нельга выключаць і тое, што гэта рэакцыя на нядаўнія заявы Пуціна. Але трэба ўлічваць тое, што Беларусь на справе не гатовая да зближэння з НАТА – для гэта неабходныя змяненні ва ўнутранай сітуацыі".

Экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Ганчарык гаворыць: "Я вітаў бы рэальныя змены ў палітыцы, але думаю, што наўрадці што зменіцца. Словы застануцца словамі. Цяпер, калі Еўропа вывучае магчымасць уводу санкцый і яўна змянілася пазіцыя Масквы, памянялася і рыторыка Лукашэнкі, але не больш таго."

Намдырэктара незалежнага аналітычнага інстытута НІСЭПІ Аляксандр Саснаўнец сумняваецца: "Гэта проста размовы, шантаж, накіраваны на Пуціна. Рэальнага руху пакуль няма. Для збліжэння з НАТА неабходная доўгачасовая падрыхтоўка, у тым ліку ваеннай інфраструктуры, якая ў нас не праводзілася..."

*«Хартыя`97»*

Перапіска

# Больш праваслаўя?

**Наша газета, «Вольнае Глыбокае» атрымала ліст ад Аліны Талкач, у якім гаворыцца наступнае:**

**«Купляю(газету) з даўніх часоў, з першых нумароў, зараз падпісваюся.**

**Хацелася б больш гісторыі раёна. І яшчэ мала ўвагі праваслаўю. У газеце адчуваецца большы ўхіл да каталіцызму. Крыху крыўдна.**

**Поспехаў вам, здароўя, мужнасці і смеласці.**

*Талкач Аліна Ул.»*

**Ад рэдакцыі:** Шаноўны наш чытач, мы вельмі парадаваліся Вашаму пісьму перш за ўсё таму, што Вы заўважылі не, не накіраванасць нашай газеты, а яе прынцыповую пазіцыю. Мы даём слова ўсім канфесіям, якія існуюць на Беларусі. Гэта могуць быць як традыцыйныя -- праваслаўныя і каталіцкія канфесіі-- так і пратэстанты, мусульмане, прадстаўнікі іншых рэлігій. Мы ўсе перад Богам роўныя. Усялякая рэлігія на Беларусі прадстаўляе свой аэрол, сваю частку насельніцтва. І тут спрачацца аб перавагах няма чаго. Мы спакон веку былі такімі: мы прызнавалі ўсіх існых на нашай зямлі.

А католік той ці праваслаўны, ці мусульманін, ці іўдзей, ці пратэстант --не так і важна для сённяшняга беларуса, ён павінен прызнаваць усіх. І ён прызнае ўсіх.

Іншае справа, што нас пакрысе пачынаюць прывучаць да аднаго «дзяржаўнага разумення», што самая галоўная і самая справядлівая рэлігія на Беларусі -- гэта праваслаўе.Так склалася, што большасць прадстаўнікоў «Вольнага Глыбокага», яго рэдакцыі, складаюць людзі праваслаўныя. Мы ні ў якім разе не мяняем і не спрабуем змяніць сваё веравызнанне -- яно дадзена нам Богам. Але не разумець сёння тое, што беларуская праваслаўная царква не з'яўляецца самастойнай і незалежнай -- нельга. Мы -- пад Масквой, пад Маскоўскай патрыярхіяй. І гэтага адмаўляць нельга. Але калі прадстаўнікі праваслаўнай царквы звернуцца да нас з прапановамі аб надрукаванні нейкіх артыкулаў, аб'яў -- мы згодны на супрацоўніцтва.

*Алесь Касцень*

# Дайшла да бедных дапамога

Культурна – асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча наладзіў сярод калгаснікаў Шаркоўшчынскага раёна раздачу гуманітарнай дапамогі, якая паступіла ад фонда Каўнтэрпарт са штата Юта (ЗША). Гэта ў асноўным дзіцячае, жаночае і мужчынскае адзенне. Для многіх закладнікаў калгаснай сістэмы, якія жывуць ва ўмовах павальнага безграшоў'я, гэта сапраўды актуальна. Дапамогу атрымала каля 800 чалавек.

*Шаркаўшчынскі МРЦ*

# Сустрэча з маладосцю

У пачатку ліпеня 1944 года быў вызвалены наш край ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Глыбокае ляжала ў руінах, на ўскраіне горада у прыгожым трохпавярховым будынку было адкрыта Глыбоцкае педагагічнае вучылішча. Паступілі ў яго ў асноўным падросткі. Вучыцца было цяжка. Не хапала ўсяго: харчавання, адзення, падручнікаў, сшыткаў. Але моладзь прыйшла сюды з моцным жаданнем вучыцца, стаць настаўнікамі пачатковых класаў.

Гертруда Віктараўна Паляк з Вялікага Сяла, якая скончыла Шкуніцкаўскую семігадовую школу Шаркоўшчынскага раёна, паступіла ў Глыбоцкае педвучылішча ў 1946 годзе. Яна ўспамінае той час з хваляваннем у голасе: "Вокны ў некаторых пакоях былі забіты фанерай. Вымытая падлога зімой-тут жа пакрывалася лёдам. Мы да знямогі сядзелі над канспектамі, а ў суботу пешшу за 30-40 кіламетраў дабіраліся ў родныя вёскі. Летам хадзілі босымі. Туфлі абувалі перад самім Глыбокім. Паркалёвая сукенка была самым прыгажэйшым убраннем. Аднак жылі весела. У вучылішчы працавалі розныя гурткі, праходзілі вечары, былі танцы".

Педвучылішча зрабіла восем выпускаў. Дыпломы настаўніка пачатковай школы атрымалі каля 500 чалавек. Большасць пайшла працаваць у пачатковыя і семігадовыя школы. Некаторыя прадоўжылі вучобу ў вышэйшых навучальных установах.

У 1997 годзе, праз 50 гадоў, адбылася сустрэча навучэнцаў Глыбоцкага педвучылішча першага выпуску(1947г.). Тады дамовіліся збіраў адрасы выпускнікоў і звесткі аб іх.

Першае спатканне выпускнікоў усіх выпускаў адбылося 25 чэрвеня 2000 года ў будынку СПТВ-168(цяпер профтэхліцэя). На сустрэчу прыехала больш 40 чалавек. Не ўсе пазнавалі адзін аднаго.



чарговую сустрэчу, але ўжо ўсіх выпускаў правесці ў 2000-м годзе. За арганізацыю гэтай сустрэчы з вялікім энтузіязмам узяўся выпускнік апошняга выпуску(1955г.) Эдмунд Норбертавіч Гірын, які пасля заканчэння педвучылішча працаваў у школах Глыбоцкага раёна, потым у Новаполацкім гаркаме партыі. 8 гадоў узначальваў тут 5-ую сярэднюю школу, выкладаў матэматыку ў 10-й школе. Калі выйшаў на пенсію, на працягу некалькіх гадоў ездзіў па раёнах,

У 2001 годзе прыехала 35 выпускнікоў. Гэта была сустрэча ўжо ў XXI стагоддзі. Прыехалі таксама нашы выпускнікі, якія працавалі ў Польшчы. Гэта Мар'ян Кордас і Ганна Талочка. Яны атрымалі вышэйшую адукацыю ў Польшчы, сталі магістрамі навук. Шмат вядомых людзей выйшла са сцен Глыбоцкага педвучылішча.

30 чэрвеня 2002 года ў 10 гадзін раніцы пачалася трэцяя сустрэча выпускнікоў усіх выпускаў. Прыехалі выпускнікі з Віцебска і розных раёнаў вобласці. Многія выпускнікі

Глыбоцкага педвучылішча звязалі свой працоўны і жыццёвы шлях з Шаркоўшчынскім раёнам. Тут працавалі Еўдакія Іларыёнаўна Кірылава(Атаманчук), Расціслаў Іванавіч Кожан, Іраіда Іванаўна Кожан(Сачанка), Глафіра Лявонцеўна Захарыч(Ваштаёнак), Мікалай Віктаравіч Лабачэўскі, Галіна Аляксандраўна Краміч (Лабачэўская), Галіна Уладзіміраўна Груздзіловіч (Кожан), Яніна Іванаўна Скур'ят (Ардынская), Зоя Мілецееўна Машара (Лаўрыновіч), Анфіса Аляксандраўна Акуневіч (Галуза) і іншыя.

Многія выпускнікі педвучылішча ўжо ў гадах, маюць слабае здароў'е, таму не змаглі прыехаць на сустрэчу.

Большасць выпускнікоў Глыбоцкага педвучылішча амаль усё жыццё самааддана служылі абранай справе. Водгукі аб іх працы самыя добрыя. Яны вылучаліся выдатнай тэарэтычнай падрыхтоўкай, шырокім кругаглядам, высокай культурай, інтэлігентнасцю, былі і застаюцца патрыётамі Беларусі, сваёй зямлі. Дзень сустрэчы для былых выпускнікоў педвучылішча – вялікае свята, бо яны зноў вяртаюцца ў сваю маладосць, у сваё юнацтва. Праз дзесяцігоддзі былыя навучэнцы пранеслі самыя светлыя ідэалы і пачуцці, павагу і цеплыню адзін да аднаго. Вось як свае пачуцці выказала Ядзвіга Міхайлаўна Ласка (Лубчонак) у экспромтам напісаным вершы:

Сустрэча з юнацтвам – вялікае шчасце,
Успомніць пражытае, убачыць сяброў,
Адкінуць гады жыцця бур і нянасцяў,
Зайсці ў вучылішча, быццам дамоў.

Усе выпускнікі педвучылішча выказалі глыбокую падзяку Эдмунду Норбертавічу Гірыну за яго самаахвярную працу ў справе арганізацыі сустрэч. Сёлета яму Марыян Кордас ад імя ўдзельнікаў сустрэчы ўручыў падарунак – кнігу Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" на польскай, беларускай і рускай мовах.

Пастаянна дзеючы аргкамітэт будзе і надалей шукаць выпускнікоў педвучылішча, запрашаць іх на сустрэчу раніцай у апошнюю нядзелю чэрвеня кожны год. Той, хто ведае аб гэтых сусрэчах, няхай не чакае спецыяльнага запрашэння. Дазваляе здароўе – садзіся на аўтобус ці машыну і едзь у Глыбокае. Вядома, трэба ўзяць з сабой пэўную суму грошай на фатаграфаванне і сяброўскі абед. Папярэдне можна паведаміць аб сваім жаданні паехаць арганізатару сустрэч Эндмунду Робертавічу Гірыну па адрасу: **211926 Лужкі, вул Маставая, д.14, Шаркоўшчынскі раён. Хатні тэлефон (8-254) 2-82-90.**

Да новай сустрэчы ў Глыбокім!

*Кліменцій Кажан*

Уладзімір Скрабатун

# Падарожжа з Глыбокага ў Глыбокае над Влтавай

*Працяг. Пачатак у №№26 (117), 27(118) і 28 (119)*

## Магістрат горада Прага

**Як працуе мэрыя нашага слаўнага горада Мінска, і якая яе структура, я пакуль не ведаю. Проста не цікавіўся. Між тым можна лічыць за гонар, што нашу дэлегацыю запрасілі наведаць магістрат горада Прагі.**

Галоўны будынак мэрыі размешчаны ў цэнтры Чэшскай сталіцы ў будынку, які пабудаваны ў 1912 годзе ў стылі сэцэсіон (мадэрн). Прага – праўны суб'ект чэшскай дзяржавы. У краіне – 14 абласцей, Прага, як вялікі горад, мае статус асобнай воласці і сваю ўласную гаспадарку і гарадскую маёмасць. Галоўны кіруючы орган сталіцы мае такую структуру: прадстаўніцтва, мэрыю, старасту (так называецца мэр) і магістрат.

Прага падзелена на 57 участкаў. З іх 22 маюць большыя паўнамоцтвы, чым астатнія: могуць рэгістраваць шлюб, выдаваць пашпарты, маюць свае бібліятэкі, школы, заапаркі і г.д., яны ж маюць і сваю раду і свайго старасту.

Прадстаўніцтва выбіраецца на чатыры гады і складаецца з 57 старшыняў – па аднаму ад кожнага ўчастка горада. Яны выпрацоўваюць законапраекты ў парламент краіны на развіццё г. Прагі.

У мэрыі працуе 5 тысяч чыноўнікаў (яшчэ нядаўна іх было каля 10 тысяч). Кіруе імі дырэктар, які прызначаецца старастам горада (мэрам). Мэрыя мае 43 аддзяленні: транспарту, навакольнага асяроддзя, архіў, гістарычных помнікаў і г.д.

Прэс-сакратарка, якая праводзіла знаёмства з магістратам, адказала на шматлікія пытанні, што датычаць чэшскай сталіцы, а таксама правяла цікавую "экскурсію" па магістрату, уключна з рабочым кабінетам мэра і прэсцэнтрам.

**На здымку:** Магістрат сталіцы Чэхіі. Прага, Марыянскі пляц, 2.

## У штабе «Кааліцыі»

**Шмат прыходзілася чуць, што ў нас, на Беларусі, ледзьве не самы дэмакратычны выбарчы закон. Наколькі ён дэмакратычны -- адчулі на сваёй скуры незалежныя кандыдаты, назіральнікі, зборшчыкі подпісаў за вылучэнне кандыдатаў, валанцёры выбарчых кампаній. Прыгадваюцца апошнія прэзідэнцкія выбары, калі зборшчыкам подпісаў забаранялася даваць падпісантам хаця які агітацыйны матэрыял, ці гэта нейкая ўлётка, ці каляндарык, ці аўтаручка, ці плакат з партрэтам кандыдата, за якога збіраюцца подпісы. Як у такіх умовах можна праводзіць вылучэнне кандыдата, калі чалавек не ведае, за каго яго просяць паставіць подпіс у падтрымку?**

А як у Чэхіі? Мы наведалі перадвыбарчы штаб *"KOALICE"* ("Кааліцыі"), у якую ўваходзілі правыя партыі: "Унія свабоды" і "Чэшская хрысціянская народная партыя". Нас сустрэла Тэрэза Копечкова *(Terezie Kopeckova)*, якая адказвала за агітацыйную частку выбарчай кампаніі «Кааліцыі». Мы са здзіўленнем пачулі, што ў Чэхіі ўжо за год да парламенцкіх выбараў пачынаецца сапраўдная агітацыя. Дзеля гэтага група валанцёраў стварае ініцыятыўную групу з 3 тысяч подпісаў, якая рэгіструецца ў Міністэрстве ўнутраных спраў. З гэтага часу можна раздаваць выбаршчыкам агітацыйныя матэрыялы, нават калі гэтая партыя не зарэгістравана.

Уявіце, што ў нас на Беларусі, такога кандыдата ці партыю адразу б знялі з дыстанцыі і зацягалі б па судах!

Актыўная агітацыя ў Чэхіі пачынаецца за 4 месяцы да дня выбараў ("Кааліцыя" пачала іх з лютага). Самая інтэнсіўная агітацыя – за 2 месяцы да выбараў. Самы пік за 3 дні да выбараў.

**На здымку:** у выбарчым штабе "Кааліцыі"

Бюджэт "Кааліцыі" на выбары склаў 75 млн. крон. Частку грошай узята пад банкаўскі крэдыт, рэшту склала спонсарская падтрымка.

"Кааліцыя", як і ўсе палітычныя партыі, што бяруць удзел у выбарчым працэсе, мела сваю графічную выяву з якой ішла на выбары. Гэтая выява мелася на ўсіх выбарчых матэрыялах і публікацыях у газетах, на лозунгах, якія лёгка запамінаюцца, а таксама на сувенірах, якія разыгрываюцца паводле атрыбных купонаў на ўлётках. Можна выйграць, ровар, ці кусок мыла, альбо пляшку напою.

Зразумела, калі партыя займаецца сваёй агітацыяй на працягу года, то з выбаршчыкамі яна можа паразмаўляць на ўсе самыя актуальныя тэмы: на Каляды -- на тэму сям'і, пад час уступных іспытаў -- на тэму адукацыі. Ёсць час на мітынгі ў гарадах і вёсках краіны, якія часта адбываюцца з удзелам рок і фолк груп.

Галоўнае, што хацелася б адзначыць, што партыя, якая паводле сацыялагічнага даследавання, ведае свой палітычны рэйтынг у грамадстве, то ў час выбараў практычна такі ж працэнт галасоў яна і атрымае.

Працяг у наступным нумары

# Барысаву -- 900

***1102 год. "...Борис Всеславич Полоцкий ходил на ятвяг и, победя их, возвратясь, поставил град Борисов во своё имя и людьми населил".***

*(В.М.Тацішчаў. "Гісторыя Расійская з самых старажытных часоў").*

### З гісторыі горада

Нядаўна святкаваў слаўны юбілей горад Барысаў. 900 год – гэта сур'ёзна, тым больш, што гораду за сваю гісторыю існавання давялося шмат перажыць страшнага. Барысаў заснаваны полацкім князём Барысам Усяславічам. Каля двух стагоддзяў горад быў у складзе Полацкай зямлі, з канца XIII стагоддзя – Вялікага Княства Літоўскага, затым Рэчы Паспалітай. У 1563 годзе атрымаў Магдэбурскае права.

Усе войны, што каціліся па беларускай зямлі, перажыў Барысаў. У 1431 годзе разбураны ў выніку міжусобіц. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай (1654 – 1667г.г.) і Паўночнай вайны(1700 – 1721г.г.) неаднаразова заняты рускімі і шведскімі войскамі.

У 1812 годзе акупіраваны, разрабаваны і амаль поўнасцю спалены французамі. 1918 – 1920 гады – акупацыя германскімі і польскімі войскамі. У апошнюю вайну фашысты стварылі ў Барысаве 6 лагераў смерці, дзе загубілі больш за 33 тысячы чалавек. Як бачыце. гісторыя горада сапраўды крывавая.

У 1792 годзе кароль Станіслаў Аўгуст выдаў Барысаву грамату на вольнасць і зацвердзіў герб, які сёння ўпрыгожвае горад: у чыстым полі брама з вежамі над якімі стаіць Святы Пётр з ключамі. Ён лічыцца ахоўнікам горада.

### Свята

Святкаванне юбілею пачалося 29 чэрвеня ў 8 гадзін раніцы богаслужэннем у Свята-Васкрасенскім саборы ў Старым Горадзе. Затым адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка заснавальніку горада князю Барысу. Манумент уражвае сваёй велічнасцю. Князь трымае ў адной руцэ меч, апушчаны долу, другой рукой указвае на камяні ў нагах. Гэта вялізныя валуны, так званыя "Барысавы камяні". А за плячыма князя – ангел-ахоўнік. На фоне васкрасенскай царквы помнік глядзіцца проста фантастычна. На галоўным пляцы Новага Горада на вялізнай сцэне а дванаццатай гадзіне пачалося тэатралізаванае ўшанаванне юбіляра . Гістарычныя сюжэты змянялі адзін аднаго: тут прадстаў прад прысутнымі князь Барыс, танчылі з дамамі рыцары сярэднявечча, прайшлі адступаючыя войскі Напалеона, грымелі ботамі салдаты Вялікай Айчыннай...

Вечарам адбыўся святочны канцэрт беларускіх зорак з удзелам сімфанічнага аркестра М. Фінберга. Апоўначы грымнуў салют – небывалае піратэхнічнае шоу. Горад доўга яшчэ не спаў. Натоўпы людзей віравалі па цэнтральнаму праспекту амаль да раніцы.




На наступны дзень працавалі кірмашы, ладзілі выступленні фальклорныя калектывы. Вечарам 30-га яшчэ падарунак: на стадыёне адбыўся канцэрт зорак эстрады, дзе выступілі "Беларускія песняры", "Самацветы", Сяргей Белікаў, гурты "Палац", "Белы Арол". І зноў барысаўчане знямелі ад зачаравання: салют расквяціў неба яркімі зоркамі. Што ж, на тое яно і свята! Як смяяліся людзі: "І да 1000-годдзя недалёка! Дажывём!"



### "Батарэі"

А цяпер аб тым, што ўразіла асабліва моцна: мемарыяльны комплекс "Батарэі". Тут пашчасціла пабачыць эпізоды апошніх баёў французскай арміі з рускімі войскамі. Ладзілі гістарычнае шоу ваенна-гістарычныя клубы Літвы і Беларусі. Усё было паўторана перад гледачамі як і тады, у далёкім 1812 годзе. Тут, у лесе адбылася жорсткая бойка паміж адступаючымі войскамі Напалеона і арміяй адмірала Чычагава. Рашучыя дзеянні Банапарта дазволілі пераправіць рэшткі сваіх палкоў праз Бярэзіну, але гэта ўжо быў канец вялікага заваёўніка. Тут, на гэтым месцы, за тры дні баёў рускія страцілі 3 тысячы чалавек, французы – каля 5 тысяч. Гледачы пабачылі на батарэях штыкавую атаку, імклівае наступленне французскай кавалерыі. Гучалі гарматныя выбухі і ружэйныя залпы. Стары бор акутваў парахавы дым. Усё было выканана па-майстэрску. Здавалася хвілінамі, што ты апынуўся ў тым часе, альбо прысутнічаеш на здымках батальнага фільма.



### Замест эпілогу

Уласна кажучы, бралі добрыя завідкі ад убачанага. Свята ўдалося. Гэта было сапраўднае шоу, карцінкі з якога ў прыезджага госця з глыбінкі надоўга асядаюць у памяці. Цяпер толькі адно думаецца – падобнае можна стварыць і ў нашым Глыбокім. Нагода ёсць, але яна пакуль што яшчэ вельмі далёкая. У 2014 годзе наш горад можа і павінен паказаць не менш грандыёзнае ідовішча – 600-гадовы юбілей Глыбокага. І цэнтральнае месца ў далёкім яшчэ ад нас свяце зойме, напэўна, тэатралізаванае, а можа, нават, батальнае шоу тых жа самых часоў Айчыннай вайны 1812 года. Падставы самыя сур'ёзныя. Чаго толькі каштуе сам факт пражывання Напалеона ў Глыбокім, яго захапленне Беразвецкім кляштарам і касцёлам кармелітаў...

Гэта мроі, але будзем спадзявацца на будучае. Будзем верыць, што падобныя здымкі можна будзе зрабіць і на вуліцах нашага слаўнага горада.

*Р. Шарыпкін*

